# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

АДРЭС РЭДАКЦЫІ І КАНТОРЫ:
Вільня, Біскупская 12 (Wilno, Biskupia 12).
АДЧЫНЕНА што дня, апрача сьвят, ад 11 да 2 гадзіны.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтара і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана кожнага нумару 30 м.**
Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. дахаты).
Цана абвестак: перад тэкстам 150 мк., сярод тэксту 200 мк і на апошняй страніцы 70 мк. за радок пэтыту у 1 шпальт

Год II. | Вільня, Пятніца, 24 лютага 1922 г. | № 5 (30)



**25 лютага** У ПАМЯШКАНЬНІ **1922 года**

БЕЛАРУСКАГА МУЗЫКАЛЬНА-ДРАМАТЫЧНАГА ГУРТКА

**(БІСКУПСКАЯ 12)**

**І Віленскае** **Вечар** **Беларуск. Гімназіі**

Пастаўлены будзе вядомы жарт

Ф. Аляхновіча **„ЧОРТ і БАБА“** (Дзе чорт ня зможа, там бабу пашле)

**„Запіскі вар'ята“** Гоголя

**Вялікі Канцэртны Аддзел**

Буфэт, пошта і інш. — Пачатак а 8 гадзіне ў вечары.

**аркестр** Лічба білетаў абмежавана скокі да раніцы


# Што чуваць у сьвеце?

### Гэнуэская конфэрэнцыя.

— Газэты паведамляюць што гэнуэская конфэрэнцыя мае распачацца 8 сакавіка.

— Французскі ўрад паведаміў дзержавы, што немагчыма склікаць конфэрэнцыю на 8 сакавіка, бо урад французскі вельмі сур'ёзна гатуецца да конфэрэнцыі, а работы экспэртаў патрабуюць каля трох нядзель працы.

— Польшча гатуе да конфэрэнцыі мэморыял аб эканамічным стане, аб вайсковых выдатках, а так сама аб прычынах малое вартасьці польскае валюты.

— Галоўнымі ангельскімі дэлегатамі на конфэрэнцыю з'яўляюцца Лёйд-Джорж і лёрд Керзон.

### З Латвіі.

— Латыскі Сойм прыняў пастанову аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы.

— Старшыня Міністраў Маеровіч зазначыў, што Латвія ня прыме на сябе часьціны расейскіх даўгоў, ад якіх звольніла ея міравая згода, зробленная з саветамі.

— Латвійскі ўрад выбраў Дзьвінск, як асяродак культурн. жыцьця беларусаў У гэтым годзе мае адчыніцца беларуская вуч. сэмінарыя. Да гэтага часу адчынена 47 белар. пач. школак, істнуе бел. школьны інспэктарыят. З восені адчыніцца бел. гімназія.

### Беларускі рух у Амэрыцы.

Сярод амэрыканскіх беларусаў заўважана змацьненьня нацыянальнага руху. Стараньні маскоўскіх бальшавікоў у Чыкаго захапіць беларускі рух сустрэлі моцны адпор. У апошні час маецца праэкт арганізацыі ўсіх беларусаў на нацыянальным грунце. (У. С.)

### Рэвізіі сярод украінск. вучыцельства ў Львове.

— 13 лютага паліцыя зрабіла вобыскі між украінскага вучыцельства ў Львове.

Вобыскі адбыліся ў т-ве „Взаімна Поміч. українського народ. учительства“, у рэдакцыі „Учительского Слова“, у кватэры старшыні „ВПУ“, у сэкрэтара „ВПУ“ і ў іншых вучыцялёў.

### Выбары да Варш. Сойму.

На паседжаньні сеньорэнконвэнту большасьць клюбаў выказалася за назначэньне новых выбараў ў будучы Сойм на 25 чэрвеня г. г.

### Савецкая Беларусь.

Бальшавікі гуртуюць у сав. Беларусі вялікія сілы, галоўным чынам, кавалерыі. Мястэчкі Беларусі абклеены адозвамі, ў якіх гаворыцца, што згода з Польшчай— мыльны пузыр, і што Сав. Беларусь павінна дамагацца далучэньня беларускіх абшараў, якія ляжаць за польска-савецкай мяжой.

# „Вялікая“ палітыка і нашы задачы.

Ня гледзечы на тое, што Вэрсальскі мір пакінуў неразьвязанымі доўгі сьцяг важных палітычных пытаньняў, ня гледзечы на тое, што пры ўстанаўленьні „раўнавагі“ ў Эўропе ня былі прыняты пад увагу жыцьцёвыя інтарэсы ня толькі такіх „малых“ народаў, як Беларусы, Ірляндцы і др., але і гэткіх волатаў, як Нямеччына і Расея, — ня гледзячы на ўсё гэта „раўнавага‘, сама сабой устанаўліваецца, калі не ламаючы, дык абходзячы ўсе папяровыя трактаты. „Антанта“ разваліваецца. А адначасна з гэтым дзяржавы-пераможцы пачынаюць ўсё больш лічыцца з пабітымі—Нямеччынай і Савецкай Расеяй.

З гэтага боку асаблівую цікавасьць будзіць, вызначаная ў італьянскім месьце Гэнуі, міжынародная конфэрэнцыя на якой першы раз побач з дыпляматамі „буржуазных“ гаспадарстваў засядуць і дыпляматы „савецкія“. Цікава, тут ня тое, што між расейскім савецкім урадам і ўрадамі капіталістычных краёў будуць адбывацца перагаворы: такія перагаворы вядуцца даўно! Тут на асаблівую ўвагу заслугоўвае тая эканамічная патрэба, той эканамічны прымус, які зьняволіў заходня-эўрапейскіх капіталістаў шукаць для сваіх тавараў дарогу ў камуністычны край. Конфэрэнцыя ў Гэнуі мае толькі афіцыяльна аформіць тое, што за плячыма ўрадаў зроблена самым жыцьцём.

Калі конфэрэнцыя дасьць вынікі, намысныя для савецкага ўраду, дык трэба спадзявацца, што „раўнавага“ у Эўропе ўмацуецца прынамся на некалькі бліжэйшых гадоў. А тая струя заходня-эўрапейскага „буржуазнага“ духу, якую ўнясуць з сабой у Расею і чужаземныя прамыслоўцы, купцы і ўсялякія „спэцы“ (спэцыялісты), бязумоўна ўскорыць эволюцыю комуністычнага ладу ў кірунку не ўпярод, а назад, бязумоўна шмат больш паможа ўзмацаваньню ў Расеі рэакцыі, чымся ўсе Калчакі, Дэнікіны, Врангелі і т. д.

Такім чынам мы знаходзімся мо шмат бліжэй да новае зьмены палітычнага і соцыяльнага ладу ў Расеі, чым каму можа здавацца. І мы, беларусы, з асаблівай уважлівасьцяй павінны ўглядацца на гэтую зьмену, бо-ж вялікшая часьціна нашае Бацькаўшчыны — так званая Савецкая Беларусь — знаходзіцца ў межах дасяганьня Масквы. Мы павінны ні на мамэнт не забывацца, што рэакцыя ў Расеі — гэта будзе ўдар перш за ўсё тым „інородцам“, якія ці то зусім аддзяліліся ад Расеі, ці ў яе межах становяць аўтаномныя адзінкі, ў гэтым ліку і беларусам.

Жыцьцё паказала нам, што народы, якія маюць высокую культуру і вялікую адпорную сілу ў сабе, могуць не баяцца часовага ярма чужынцаў. Прыклад становіць хоць-бы гісторыя Польшчы, якая больш за сотню гадоў жыла пад чужацкім панаваньнем, падзеленая на тры часьці, і вось цяпер ўваскрэсла, ды ня толькі жыве сама незалежным жыцьцём, але ўжо пасьпела паняволіць некалькі слабейшых сусе-дзяў, як беларусы і ўкраінцы...

Мы з гэтае навукі жыцьця павінны зрабіць свае вывады. Чым больш нас дзеляць і няволяць, чым болш стараюцца чужынцы зьніштожыць нас да званьня, чым больш байцоў за нацыянальнае адраджэньне і незалежны быт беларускага народу вырываюць з нашых радоў, —тым цясьней павінны мы ядначца. тым мацнейшы павінен быць наш культурны фронт, тым больш энэргічна павінна вясьціся беларуская творчая культурна-нацыянальная праца.

Няхай чужацкая ўлада высылае нашых культурных работнікаў, няхай „патрыятычныя чрэзвычайкі“ фабрыкуюць самыя дзікія абвінавачаньні іх, няхай на беларускія культурныя ўстановы сыплюцца ўсялякія рэпрэсіі, — дарэмна ўсё гэта: мы не паддамося! Мы, бяз розніцы партыі, кірункаў і орыентацый, будзем ісьці ў справе культурнага і нацыянальнага паднацьця нашага народу ўсе разам. На месца выбыўшых стануць новыя працаўнікі. І работа будзе йсьці. Дзе нельга яўна, там надпольна: як калісь пад расейскім царскім урадам з прычыны забароны польскае школы палякі вучылі дзяцей роднае мовы ў патайных школах, так будзем рабіць мы ў „констытуцыйнай“ і „дэмакратычнай“ Польшчы, якая нішчыць нашу школу. Забароняць і разгоняць беларускія каапэратывы, як зроблена ў Горадні, —мы знойдзем спасабы ў другой форме об'яднаць нашы сілы на грунце эканамічнае самапомачы. Бо асьвета і экономіка —гэтаж аснова нашага нацыянальнага быту!

„Раўнавага“ ў Эўропе патрывае мо, некалькі гадоў, пакуль ня прыйдзе новая завіруха, ад якое мо вельмі зьменіцца палітычная карта Эўропы. Тады і палажэньне Беларусі можа сур'ёзна зьмяніцца—на дабро, ці мо і на зло. Вось-жа ад таго, што мы здолеем зрабіць за гэтыя гады, будзе залежыць і ўвесь наш нацыянальны быт. Будзем сільнымі культурна і эканамічна—дык свае возьмем! Будзем кволыя, слабыя, —дык такая-ж будзе і доля наша!

Ярашэўскі.

# Віленскі Саюз Каапэратываў.

(Гістарычны агляд).

У 1917 годзе, калі Віленскую губэрню вялікая ўсясьветная вайна разьдзяліла расейска-нямецкімі акопамі і калі на нямецка-расейскім фронце яшчэ грукаталі пушкі, у далёкай Дзісьне паўставаў Віленскі Саюз Каапэратываў“. гэта быў час‘ калі грамадзянства, вызваліўшыся ад ланцугоў няволі. кінулася на грамадзкую працу. Маленькая Дзісна тады была губэрскім горадам, бо Вільня і ўся мясцовасьць да нямецкіх акопаў, была занята немцамі. У Дзісьне сабраліся розныя губэрскія ўстановы і між іншым Віленскі Губэрскі Прадавольственны Камітэт, гэта была пара, калі ў Расейскім Міністэрстве Прадавольствія працавалі Каапэратары. Яны імкнуліся да тато, каб замест урадовага „Прадавольствія“ стварыць як найбольшую сетку каапэратыўных установаў і гэтым установам перадаць усю справу харчаваньня. Была мода [illegible]е, каб пры кожным Губпрад-Коме стварыць свой Губэрскі Саюз Каапэратываў; апроч гэтага лёгкасьць злучэньня ўжо меўшыхся на „расейскім“ баку каапэратываў гэту модную думку ўвяла ў жыцьцё, і такім парадкам паўстаў маленькі „Віленскі Саюз Каапэратываў“. Абнімаў ён раён дзейнасьці ў астаўшайся пад расейцамі часткі Віленскай губэрніі: ўсю Дзісеншчыну, часгку цяперашняга Браслаўскага павету, ўвесь цяперашні Дунілавіцкі павет і Вялейскі павет. У Саюзе было каля 40 каапэратываў.

Заняцьце Дзісны немцамі посьле другой (бальшавіцкай) рэвалюцыі паста

